

НЕЗАЛЕЖНАЯ ГАЗЕТА ШУМІЛІНШЧЫНЫ

# СЬВІТАНАК

*Беларусь, твой народ дачакаецца Залацістага, яснага дня! М. Багдановіч.*

№2 (329) СТУДЗЕНЬ 2023 ГОД

КУЛЬТУРА

# НАРОДНЫ МАЙСТАР З ШУМІЛІНА

**Сем майстроў Віцебшчыны, у іх ліку і Наталля Сцержанкова з Шуміліна, атрымалі ганаровае званне «Народны майстар Рэспублікі Беларусь».**



Такое рашэнне было прынята на пасяджэнні экспертнай камісіі па народным мастацтве, народных промыслах і рамёствах пад кіраўніцтвам Яўгена Міхайлавіча Сахуты – доктара мастацтвазнаўства, старшыні Беларускага саюза майстроў народнай творчасці.

Бадай што, на сёння гэта была самая высокая адзнака творчасці людзей, якія адраджаюць традыцыйныя рамёствы.

Цяпер Наталля Сцержанкова на Шумілiншчыне займаецца адраджэннем і захаваннем традыцый саломапляцення, валодае ўсімі тэхнікамі дадзенага рамяства. Яна вырабляе ўтылітарна-дэкаратыўны посуд, саламяную скульптуру, галаўныя ўборы, дэкаратыўныя пано, кветкі, маскі, жаночыя ўпрыгожванні. Найбольш значнае месца ў яе творчасці займае выраб саламяных павукоў, калекцыя якіх знаходзіцца ў Шумілінскім Доме рамёстваў. Як сябра Беларускага саюза майстроў народнай творчасці, спадарыня Наталля з'яўляецца носьбітам элемента нематэрыяльнай культурнай спадчыны "Беларускія мастацкія практыкі саломапляцення".

Зараз Народны майстар Беларусі Наталля Сцяржанкова працуе ў Шумілінскім Доме рамёстваў.

Саломапляценнем спадарыня Сцяржанкова займаецца амаль 25 гадоў. Захапілася гэтым падчас вучобы ў Полацку ў швейнай прафесійна-тэхнічнай вучэльні, дзе наведвала гурток. Пасля атрымання дыплома зноў вярнулася ў Шуміліна, дзе неўзабаве ў мясцовым Доме рамёстваў займалася лозапляценнем на аматарскім узроўні. Затым туту вызвалілася вакансія метадыста па саломцы і Наталлі прапанавалі рэальнае працаўладкаванне. Затым былі курсы ў абласным метадычным цэнтры народнай творчасці, таксама таямніцы старажытнага рамяства адчыняліся з дапамогай спецыялізаванай літаратуры.

Цяпер Наталля Сцяржанкова валодае ўсімі сакрэтамі ў любімай справе. Яна вырабляе ўтылітарна-дэкаратыўны посуд, саламяную скульптуру, галаўныя ўборы, пано, кветкі, маскі, жаночыя ўпрыгожанні, "дажыначныя снапы" майстрыхі двойчы былі ў ліку пераможцаў абласнога конкурсу.

Цікавы факт: нарыхтоўка саломы для вырабаў адбываецца выключна сярпамі, бо ні ў якім разе яна не павінна выходзіць з-пад касы ці камбайна. У гэтым выпадку дапамагаюць і кіраўнікі сельгаспрадпрыемстваў, якія прадстаўляюць патрэбныя ўчасткі. Калі вясна не позняя, то нарыхтоўка сыравіны даводзіцца як раз на Купалле. Усяго на сезон неабходна 35 снапоў, якія пасля сушкі на сонца захоўваюцца на складзе.

Асаблівае стаўленне ў майстрыхі праяўляецца да саламяных "павукоўабярэг". Варта дадаць, што многія тонкасці вырабу якіх запазычаныя ў экспедыцыях па вёсках Шумілiншчыны. Наталля Аляксандраўна вядзе гурток, часта бывае ў школах, праводзіць гутаркі па традыцыях саломапляцення, майстар-класы, і абярэгі з'яўляюцца адным з напрамкаў, цікавых дзецям. Дарэчы, саламяныя павукі, па народных павер'ях, якія засцерагаюць сваіх гаспадароў ад адмоўнай энергіі, не застаюцца без увагі дарослых. Да прыкладу, старажытныя амулеты карыстаюцца попытам пакупнікоў на "Славянскім базары ў Віцебску" і фестывалі-кірмашы "Вясновы букет" у Мінску. Тры гады таму пад кіраўніцтвам Наталлі Сцяржанковай восем майстроў з Дамоў рамёстваў Віцебшчыны рэалізавалі праект "Саламяны павук". Абярэг вышынёй паўтара метра зараз знаходзіцца ў абласным метадычным цэнтры народнай творчасці.

**Алесь Прыбярэжны**

***ПАРТАЛ ТВАЙГО ГОРАДА: HTTP://SHUMILINA.BY***

ЮБІЛЕЙ

# АКЦЫЯ Ў ГОНАР ЗЕМЛЯКА

**У Шуміліне прайшла памятная акцыя, прысвечаная 85-годдзю з дня нараджэння Героя Беларусі Аляксандра Дубко.**

Сёлета грамадскасць Шумілiншчыны арганізавала урачыстасці з нагоды 85-годдзя з дня нараджэння Героя Беларусі, Героя Сацыялістычнай Працы Аляксандра Дубко (1938 – 2001). Урачыстае мерапрыемства адбылося на Алеі Славы побач са стэлый ў гонар вядомага земляка. Сімвалічна тое, што ён з'яўляецца равеснікам Віцебскай вобласці. Варта нагадаць асноўныя факты з працоўнай біяграфіі.

Аляксандр Іосіфавіч Дубко нарадзіўся ў вёсцы Ілава Шумілінскага раёна. Яшчэ ў дзявятым класе ён вызначыўся з выбарам прафесіі, таму пасля заканчэння школы адразу паступіў у Гродзенскі сельскагаспадарчы інстытут. Затым выпускніка-выдатніка накіравалі рэалізоўваць атрыманыя веды ў вучэбна-доследнай гаспадарцы, якая дзейнічала пры інстытуце, дзе ён некалькі гадоў працаваў аграномам-насенняводам. Пасля доследнай гаспадаркі займаў розныя кіраўнічыя пасады. Адметна тое, што з 1972 па 1994 год Аляксандр Дубко працаваў на пасадзе старшыны вядомага на ўсю Беларусь калгаса "Прагрэс" Гродзенскага раёна. Дзяржава ацаніла поспехі: за дасягненне высокіх вытворчых паказчыкаў у 1982 годзе кіраўнік гаспадаркі ўдастоены звання Героя Сацыялістычнай Працы. У 1994-м Аляксандр Дубко назначаны старшынёй Гродзенскага аблвыканкама. Прычым яго стылю кіраўніцтва былі характэрныя выразнасць, адкрытасць, прафесіяналізм, умелая праца з кадрамі. На гэтай пасадзе Аляксандр Дубко заставаўся да сыходу з жыцця. Званне Героя Беларусі яму прысвоена пасмяротна ў 2001 годзе.

Між іншым, першую дзяржаўную ўзнагароду медаль "За Працоўную адметнасць" атрымаў у 28 гадоў, узначальваючы калгас "Прагрэс", у 1981-м годзе атрымаў ураджайнасць збожжавых 46,5 ц/га, што і цяпер для многіх з'яўляецца высокім паказчыкам. У выніку Аляксандр Іосіфавіч выхаваў цэлую плеяду выдатных кіраўнікоў, якія задаюць плён у развіцці сельскай гаспадаркі Беларусі.

**Алесь Шумскі**

ГРАМАДСТВА І ЗАКОН

# НАШЭСЦЕ МАХЛЯРОЎ

**Паводле начальніка штаба Шумілінскага райаддзела ўнутраных спраў Віктара Попелава, у мінулым 2022 годзе на Шумілiншчыне зарэгістравана 15 выпадкаў махлярства па тэлефоне, у сацыяльных сетках і на гандлёвых інтэрнэт-пляцоўках.**

Супрацоўнікі раённага аддзела ўнутраных спраў правялі аналітычную работу па новым відам злачынстваў і вылучылі найбольш распаўсюджаныя схемы.

Перадусім невядомы махляр прадстаўляецца работнікам банка (або нават супрацоўнікам міліцыі) і паведамляе, што на ваша прозвішча незнаёмец быццам бы бярэ крэдыт. Каб яго пагасіць, трэба аформіць яшчэ адзін.

Як надалей паступіць грамадзянам у гэтым выпадку? Адразу трэба звярнуцца непасрэдна да работніка банка, расказаць сітуацыю і перакanaцца ў непраўдзівасці слоў таго, хто тэлефанаваў.

Махляры заўсёды патрабуюць перадаць пэўную суму грошай, звычайна прадстаўляючыся супрацоўнікам праваахоўных органаў або сваяком, які нібыта трапіў у бяду. Пры гэтым запэўніваюць, што гэтыя грошы быццам бы вызваляць ад адказнасці за дарожна-транспартнае ці іншае здарэнне.

Тут засцерагчыся ад падману няцяжка: трэба проста пакласці трубку і набраць нумар сваяка, які нібыта трапіў у бяду.

У апошні час махлярства дастаткова часта распаўсюджана ў сацыяльных сетках. Невядомыя зламыснікі ствараюць фэйкавыя (несапраўдныя) інтэрнэт-старонкі магазінаў па продажы тавараў, дзе і размяшчаюць фотаздымкі з рэальных анлайн-каталогаў.

Як у даным выпадку не стаць чарговай ахвярай падману махляроў? Тут варта вывучыць водгукі пра інтэрнэт-магазін і прадаўца да пераводу грошай.

Нярэдка на тэматычных інтэрнэт-пляцоўках размяшчаюцца розныя аб'явы аб продажы аўтамабіляў, сельскагаспадарчай і мотатэхнікі. І як правіла, цана выстаўляецца ніжэй за рынкавую, каб аб'явы прыцягвалі ўвагу людзей, якія вабіць дзешавізна. Як толькі з'яўляюцца патэнцыйныя пакупнікі, гутарка з імі адразу пераводзіцца ў месенджары (Viber, WhatsApp інш.), дзе зацікаўленых у пакупцы таннай тэхнікі па розных прычынах прымушаюць пералічыць папярэднюю аплату на банкаўскія карты.

Як не паддацца на падман? Супрацоўнікі райаддзела раяць праверыць фота, рэквізіты, прозвішчы і іншыя факты пра прадаўцоў у некалькіх крыніцах, а аплату зрабіць пасля атрымання тавару.

**Ян Вайтовіч**

АФІЦЫЙНА

# СПРАВАЗДАЧА ДЭПУТАТА ІРЫНЫ ПАЛЯКОВАЙ

**Мінулы год быў багаты на падзеі. Пра гэтыя і іншыя пытанні работы дэпутата ў 2022 годзе расказвае дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь па Гарадоцкай выбарчай акрузе № 21 Ірына Міхайлаўна ПАЛЯКОВА на старонках раёнкі "Герой працы".**

– Безумоўна, найважнейшай падзеяй мінулага года стаў рэферэндум па ўнясенні змяненняў і дапаўненняў у Канстытуцыю Рэспублікі Беларусь.

У прыватнасці, у рамках падрыхтоўкі новай рэдакцыі Канстытуцыі прайшло многа сустрэч па абмеркаванні дапаўненняў і змяненняў у Асноўны Закон. Цікавасць да праекта прымусіў працаваць вельмі шчыльна, толькі ў калектывах арганізацый і прадпрыемстваў прайшло каля 70 сустрэч. Вельмі важна было пачуць думкі маіх выбаршчыкаў, бо размова ішла пра пераразмеркаванне паўнамоцтваў паміж органамі ўлады.

Адзначу, што праект Асноўнага Закона знайшоў адабрэнне і падтрымку большасці грамадзян. Не меншую цікавасць выклікала і грамадскае абмеркаванне Закона аб Усебеларускім народным сходзе. На дыялогавых пляцоўках абмяркоўвалі парадак фарміравання і работы найвышэйшага прадстаўнічага органа краіны, яго задачы і паўнамоцтвы.

***– Раскажыце пра сваю работу ў Палаце прадстаўнікоў.***

– За справаздачны перыяд у Палаце прадстаўнікоў праведзены тры сесіі, адбылося 26 пасяджэнняў, у тым ліку і сумесных з Саветам Рэспублікі, прыняты больш за 130 праектаў законаў, у тым ліку 35 законапраектаў аб ратыфікацыі міжнародных дагавораў.

Асноўныя арыенціры, на якіх будавалася работа дэпутацкага корпуса ў 2022 годзе, –умацаванне нацыянальнай бяспекі і павышэннеэфектыўнасці эканомікі краіны, прыцягненне інвестыцый і развіццё дзелавой ініцыятывы, удасканаленне сістэмы адукацыі і аховы здароўя. Найважнейшым напрамкам дзейнасці дэпутатаў з'яўляецца сістэмная работа над прывядзеннем дзеючага заканадаўства ў адпаведнасць з новай рэдакцыяй Канстутуцыі. Уся законатворчая дзейнасць была накіравана на развіццё краіны, павышэнне ўзроўню жыцця і сацыяльных гарантый грамадзян, стварэнне ўмоў для спрыяльнага і камфортнага жыцця.

Як член Пастаяннай камісіі па аграрнай палітыцы Палаты прадстаўнікоў прымаю ўдзел у абмеркаванні законапраектаў.

У 2022 годзе прыняты праект ЗаконаўРэспублікі Беларусь «Аб племянной справе», унесены Саветам Міністраў, «Аб змяненнях кодэксаў», які змяніў Кодэкс аб зямлі і Грамадзянскі кодэкс краіны. У двух чытаннях быўпрыняты законапраект «Аб змяненні Закона Рэспублікі Беларусь «Аб Савеце Міністраў Рэспублікі Беларусь», былі ратыфікаваны пагадненні і дагаворы Рэспублікі Беларусь з Арменіяй, Расійскай Федэрацыяй і інш.

Праводзіліся выязныя пасяджэнні профільнай камісіі, семінары-нарады ў рамках распрацоўкі і выканання Законаў Рэспублікі Беларусь.

***– Ірына Міхайлаўна, работа з выбаршчыкамі – адзін з галоўных абавязкаў дэпутата. Як ішла яна ў акрузе ў мінулым годзе?***

– У 2022 годзе прайшло 17 асабістых прыёмаў, на якія звярнуўся 51 грамадзянін, было праведзена 17 «прамых ліній», відэаканферэнцый і іншых форм дыстанцыйнай работы, адбылося 197 сустрэч ў працоўных калектывах. Я брала ўдзелу6сесіяхмясцовыхСаветаў дэпутатаў і 6 пасяджэннях раённых выканаўчых камітэтаў (у выбарчую акругу ўваходзяць Гарадоцкі, Віцебскі і Шумілінскі раёны).

***– Якія пытанні ставілі перад дэпутатам выбаршчыкі? Што ўдалося вырашыць?***

– Пытанні вельмі розныя: сфера жыллёва-камунальнай гаспадаркі, рамонт дарог, добраўпарадкаванне і водазабеспячэнне, гандлёвае і медыцынскае абслугоўванне, пенсійнае забеспячэнне і выплата заработнай платы і многае іншае. На ўсе пытанні імкнуся аператыўна рэагаваць, прыцягваю для іх рашэння адпаведныя службы і арганізацыі. Частка пытанняў патрабавала звароту ў профільныя міністэрствы. У Шумілінскімраёне, напрыклад, удалося вырашыць пытанні з падтопліваннем зямельнага ўчастка, нявыплатай заработнай платы і разлікаў за здадзенае малако.

***– Ведаю, што актыўна працуеце з моладдзю, школьнікамі. Якую задачу пры гэтым вы ставіце сабе?***

– Работа з моладдзю прадугледжвае ў першую чаргу фарміраванне актыўнай грамадзянскай пазіцыі, выхаванне патрыятызму. Таму часта сустракаюся як з маладымі спецыялістамі, так і з навучэнцамі розных устаноў адукацыі. У рамках праекта «ШАГ. Школа актыўнага грамадзяніна» ў Шумілінскім раёне сустракалася з вучнямі Мішневіцкай базавай школы імя Героя Савецкага Саюза А. С. Расказава, Кардонскай сярэдняй школы, Мікіціхінскай сярэдняй школы імя Героя Савецкага Саюза М. А. Ласкунова, сярэдняй школы № 2 імя А. І. Дубасарскага г. п. Шуміліна.

Цікавым адбыўся дыялог СА студэнтамі Віцебскай акадэміі ветэрынарнаймедыцыны,зякімі абмяркоўвалі пытанні развіцця сельскагаспадарчай галіны Віцебшчыны, перспектывы працаўладкавання маладых спецыялістаў, адказнасць кожнага грамадзяніна за развіццё краіны і іншае.

***– Чым вам запомніцца Год гістарычнай памяці?***

– Работай па аднаўленні гістарычнай праўды пра генацыд беларускага народа, увекавечанні памяці воінаў Вялікай Айчыннай вайны, патрыятычнымі акцыямі і мерапрыемствамі. Шматлікія мерапрыемствы, прысвечаныя Году гістарычнай памяці, праходзілі ў кожным раёне, у Віцебску. На Шуміліншчыне разам з кіраўніцтвам раёна, членамі БРСМ, пажылымі грамадзянамі, якія пражываюць у аддзяленні кругласутачнага знаходжання ТЦСАН у аграгарадку Мішневічы, быў пасаджаны яблыневы сад у гонар Года гістарычнай памяці. Пабывала на святкаванні 120 годдзя Обальскай сярэдняй школыімяГерояСавецкагаСаюза З. М. Партновай.

***– Што яшчэ вам запомнілася з падзей мінулага года?***

– Як дэпутат Палаты прадстаўнікоў я брала ўдзел у святочных мерапрыемствах работнікаў сельскагаспадарчай галіны. УШумілінскімраёнемяне ўразіў маштаб святкавання Дня работнікаў сельскай гаспадаркі і перапрацоўчай прамысловасці АПК, дзе ўручыла Падзяку старшыні Палаты прадстаўнікоў У. П. Андрэйчанкі старшыні раённай арганізацыі прафсаюза работнікаў АПК В. І. Пусянковай.

Пастаянна ўдзельнічаю ў дабрачынных акцыях. Так, падчас дабрачыннай акцыі «Жанчыны за ўраджай» самыя актыўныя работніцы сельска-гаспадарчых прадпрыемстваў, занятыя на ўборцы ўраджаю, атрымліваюць падзякі. На Шуміліншчыне іх атрымалі загадчыцы складаў Г. І. Сіпко (КУСГП «Ульскі»), Т. І. Лявонава (КУСГП «Сіроцінскі»), В. М. Голубева (ААТ «Прыазёрны мір»), Г. А. Карнякова (СФГ «Раднік»).

Да новага навучальнага года штогод праходзіць акцыя «Збяром партфель у школу», калі дапамагаем дзецям, чые бацькі задзейнічаны ва ўборцы ўраджаю . У Шумілінскім раёне школьныя прылады для дзяцей атрымаў мнагадзетны бацька механізатар КУСГП «Ульскі» В. М. Аглушэвіч.

Абавязкова ўдзельнічаю ў навагодняй дабрачыннайакцыі «Нашы дзеці». Сёлета падарункі ў вашым раёне атрымалі выхаванцы дзіцячага дома сямейнага тыпу (маці-выхавальнік С. М. Цярэнцьева).

Дарэчы, падрабязную інфармацыю пра маю дзейнасць як дэпутата можна атрымаць за маёй старонцы на сайце Палаты прадстаўнікоў http://polyakova.house.gov.by.

Дарэчы, стала вядома, што Ірыну Міхайлаўну Палякову прызначылі старшынёй Гарадоцкага райвыканкама.

*(Скарочана)*

**shumilino.by**

ЗДАРЭННІ

# ЗАНЕСЛА ЛЕГКАВУШКУ

**Аўтамабіль «Рэно», якім кіраваў жыхар Віцебска, каля вёскі Андрэева занесла. Магчыма таму, што вадзіцель не ўлічыў складаныя ўмовы з-за слізкай дарогі, або, як высветлілася потым – быў на падпітку.**

У выніку заносу аўтамабіль сутыкнуўся з «Жыгулямі», што стаялі на абочыне. Цяпер за тое, што вадзіцель быў нецвярозы, яму пагражаюць штраф да 200 БВ і пазбаўленне права займацца дзейнасцю, звязанай з кіраваннем транспартнымі сродкамі, тэрмінам на пяць гадоў. За дарожна-транспартнае здарэнне на яго быў складзены адміністрацыйны пратакол, парушальніку верагодны штраф ад 5 да 20 БВ.

**Сяржук Крупскі па зводках УУС**

# ЯК ВЫРАТАВАЛІ КІРОЎЦУ

**У Шумілінскім раёне ратавальнікі прыйшлі на дапамогу пацярпеламу ў дарожна-транспартным здарэнні.**



26 студзеня на трасе Р20 Полацк-Віцебск паблізу вёскі Хацілава Шумілінскага раёна вадзіцель аўтамабіля «ГАЗ 27-52 Собаль» не справіўся з кіраваннем і з'ехаў у кювет. Аб тым, што неабходна дапамога аднаму з пасажыраў аўтамабіля, які перавярнуўся, ратавальнікам паведаміў інспектар мясцовага аддзялення ДАІ.

Да месца дарожна-транспартнага здарэння накіраваліся работнікі пажарнай аварыйна-выратавальнай часці №1 г.п. Шуміліна. У аўтамабілі аказаўся заблакіраваным адзін з пасажыраў. Усяго ж да аварыі ў машыне было 5 чалавек, чацвёра пакінулі яе самастойна.

"Мужчына знаходзіўся ў прытомнасці. Калі мы прыехалі, яму ўжо аказвалі першую дапамогу медыкі. Але без спецыяльнага абсталявання выбрацца з аўтамабіля яму было немагчыма. Таму мы приступілі да яго дэблакіроўкі" – распавёў Аляксандр Равуцкі.

Аляксандр з калегамі Андрэем Саматыем і Вадзімам Купрыянавым стабілізавалі машыну, якая перавярнулася, і пры дапамозе гідраўлічнага інструмента вызвалілі пастадалага, пасля чаго перадалі яго работнікам хуткай медыцынскай дапамогі для далейшай шпіталізацыі.

**Сяржук Крупскі па зводках УУС**

# АВАРЫЯ

**У Шумілінскім раёне сутыкнуліся два аўтамабілі – ёсць пацярпелы.**

Паводле папярэдняй інфармацыі, вадзіцель 1981 года нараджэння, кіруючы аўтамабілем Ford, прыпаркаваным на абочыне дарогі, перад пачаткам руху не пераканаўся ў бяспецы манеўру і сутыкнуўся з аўтамабілем Isuzy, які рухаўся ў спадарожным напрамку.

У выніку аварыі кіроўца Ford атрымаў траўмы, яго шпіталізавалі.

У Дзяржаўтаінспекцыі нагадалі, што пры кіраванні сваім транспартным сродкам трэба быць вельмі ўважлівымі і асцярожнымі, не забывацца на канцэнтрацыю ўвагі.

– Памятайце, аўтамабіль – сродак падвышанай небяспекі. Ад вашага няправільнага манеўру залежаць жыццё і здароўе навакольных. Перад пачаткам руху або перастраеннем вадзіцель абавязаны пераканацца, што яго дзеянні будуць бяспечныя і не створаць перашкоды і небяспекі для дарожнага руху, – дадалі ў ДАІ.

**Сяржук Крупскі па зводках УУС**

НАША ГІСТОРЫЯ

# ПАЎСТАННЕ КАСТУСЯ КАЛІНОЎСКАГА: ЯК ПАЧАЛОСЯ І ЧАМУ ЗГАСЛА

**160 гадоў таму пачалося вызвольнае паўстанне 1863-1864 гадоў, адным з лідараў якога быў наш нацыянальны герой Кастусь Каліноўскі. Чарговая юбілейная дата — добрая нагода, каб узбагаціць веды па айчыннай гісторыі. Партал Budzma.org падрыхтаваў адмысловы гайд, у якім коратка і зразумела тлумачым, што было перадумовамі і прычынамі паўстання, як яно пачалося і чаму згасла.**



*Рэдкі здымак паўстанцаў 1863-1864 гг.*

**Што было перад паўстаннем?**

Абвастрэнне сітуацыі ў беларускай вёсцы ў сувязі з адменай прыгоннага права і чаканнем сялян сапраўднай волі супала з адраджэннем нацыянальнага руху на тэрыторыях былой Рэчы Паспалітай. У 1860 годзе праходзілі народна-патрыятычныя выступленні ў розных формах: спяванне патрыятычных гімнаў у касцёлах, нашэнне элементаў патрыятычнай вопраткі такіх, як шапкі-рагулі ці канфедэраткі, зверху — чамары.

Вялікае абурэнне і сярод жыхароў Царства польскага, і сярод патрыётаў з Паўночна-Заходняга краю выклікаў расстрэл 27 лютага 1861 года патрыятычнага шэсця ў Варшаве, калі царскія жаўнеры адкрылі агонь па натоўпу. 5 чалавек былі забітыя, 10 — паранілі. Шэсце было прысвечана бойцы пад Грохавым, што адбылася 25 лютага 1831 года. Царскія жаўнеры тады пацярпелі паразу.

**Як адказалі патрыёты?**

Пачалі павальна насіць «жалобу» — жалобныя строі і «чорную» біжутэрыю — запанкі, кольцы, медальёны з выявамі «Белага арла», «Пагоні», якара, касаў і шабляў. У хуткім часе за такія ўпрыгожванні і вопратку людзі пачалі атрымліваць штрафы або арышт.

Гэта яшчэ больш азлобіла жыхароў акупаваных расейцамі земляў. Пачаліся адкрытыя сутычкі на вуліцах паміж маладзёнамі. Патрыёткі маглі аплёваць расейца або абла-яць. Афіцэраў і жаўнераў адмаўляліся абслугоўваць у кавярнях, пакуль тыя не зробяць замову на мясцовай мове, а калі царскі жаўнер ці службовец заходзіў у касцёл, то ксёндз мог прыпыніць службу. Пачаўся распаўсюд антыцарскай літаратуры, у тым ліку славутай «Мужыцкай праўды».

Распаўсюд газеты выконваў адразу некалькі функцый. У змесце «простай мовай» тлумачыўся сялянам прыгонніцкі характар аграрнай рэформы 1861 года. Газета раскрывала імперскую палітыку самадзяржаўя і абаранела скасаваную ўладамі ўніяцкую царкву і былыя свабоды…

**І яно пачалося!**

Паўстанне палыхнула ў Каралеўстве Польскім ноччу з 22 на 23 студзеня 1863 года. Царскія вайсковыя гарнізоны ў розных частках краіны былі адначасова атакаваныя. Нагодай для выступу стаў чарговы рэкруцкі набор па спісах, у якія ўвайшлі ўсе «нядобранадзейныя» маладыя людзі. Але выступленне было падрыхтавана не да канца.

Спантаннае выступленне ў Польшчы стала поўнай нечаканасцю для рэвалюцыянераў Беларусі і Літвы. Але пасля ваганняў паўстанне было падтрымана імі амаль праз тыдзень. 1 лютага 1863 года Літоўскі Правінцыйны камітэт абвясціў сябе часовым губернскім урадам Літвы і Беларусі і апублікаваў праграмныя дакументы. Гэтая праграма дублявала праграму польскіх паўстанцаў…

**Як ішла ўзброеная барацьба?**

Першыя атрады паўстанцаў з'явіліся ў заходніх губернях Беларусі ў канцы студзеня 1863 года. У сакавіку-красавіку было сфарміравана больш за шэсць мясцовых атрадаў. Сярод іх былі дробныя шляхцічы, студэнты, рамеснікі, сяляне і афіцэры, якія пакінулі царскую армію.

Праблемай была адсутнасць агульнага плана дзеянняў і ўзаемнай каардынацыі. Зброі таксама не хапала. Паўстанцы нападалі на нешматлікія царскія патрулі, разззбройвалі мясцовых паноў, егераў, царскіх службоўцаў.

Усяго за перыяд з лютага па жнівень 1863 года у межах сучаснай Беларусі было зафіксавана 46 бітваў і сутычак паўстанцаў з царскімі войскамі. Значная колькасць з іх прыйшлася на Гродзеншчыну і Віленшчыну…

**Чаму паўстанне згасла і што стала з Каліноўскім?**

У чэрвені 1863 года распачаліся шматлікія арышты ўдзельнікаў паўстання. Крыло «белых» не вытрымала такога ціску. Кастусь Каліноўскі з паплечнікамі стварылі кшталту літоўска-беларускага падпольнага руху. Яго дзейнасць мусіла надаць надзеі людзям і натхніць новыя сілы на паўстанне. Але было надта позна, асейцы амаль задушылі восенню 1863 года ўзброены супраціў на беларуска-літоўскіх землях. Амаль праз год былі цалкам знішчаныя апошнія атрады паўстанцаў у Польшчы.

Кастусь Каліноўскі да апошняга адмаўляўся пакінуць спробы падняць народ на новае паўстанне. Ён спрабаваў арганізаваць новыя выступы вясной 1864 года, але малады сябар рэвалюцыйнай арганізацыі Вітольд Парфіяновіч заклаў следчым месца знаходжання і псеўданім свайго старэйшага таварыша.

Каліноўскі быў арыштаваны ў хуткім часе і публічна павешаны на плошчы Лукішкі ў Вільні. Цела яго было пахаванае на тэрыторыі вайсковага гарнізона і засыпана вапнаю. З яго смерцю згасла і апошняе буйное паўстанне на Беларусі і Літве.

*(скарочана ды адрэгавана)*

**Алесь Масевіч**
**budzma.org**

УЛАДА

# НАЧАЛА ЛИ СИСТЕМА ПОЕДАТЬ СЕБЯ ИЗНУТРИ?

**Чем можно объяснить задержания среди управленцев и силовиков? На эти и другие вопросы Филина ответил профессор писхологии Владимир Янчук: «Неуверенность в завтрашнем дне присутствует как в управленческом и силовом блоке, так и наверху».**

***— За последнюю неделю произошло несколько громких задержаний среди представителей властей и госпредприятий. В том числе речь идет о сотрудниках силовых структур, причастных к репрессиям. О чем это говорит: система начинает поедать своих или же речь о классическом «бей своих, чтобы чужие боялись»?***

— Это и то, и другое. В принципе, система начинает давать сбои, т.к. все ее ресурсы самоподдержания исчерпаны. Более того, как бы наш «большой сосед», во много-ом определяющий нашу внутреннюю и внешнюю политику, не раздувал щеки, ситуация у него очевидно ухудшается.

Победные же реляции становятся все менее убедительны. А перспективы становятся все более и более мрачными. Речь, правда, не о краткосрочной перспективе, хотя и она внушает мало оптимизма. А в долгосрочной становится ясно, что пошли сбои.

И когда это началось, то в чиновничьей среде появилось беспокойство. И когда завтрашний день становится все более неопределенным, это беспокойство нарастает как среди управленцев, так и в силовых структурах. Раньше можно было сбежать к соседу, а теперь это стало малопривлекательным, да и просто опасным.

Среди силовиков есть разные люди. Многие из них держат нос по ветру. Так как нет доверия никому. Так как напряжение и беспокойство растет, я в этом не сомневаюсь. Так что эта неуверенность в завтрашнем дне присутствует как в управленческом и силовом блоке, так и наверху.

Взять тот же международный уровень. Даже на уровне СНГ и постсоветского пространства мы также оказались в одиночестве. Коллеги по Содружеству стали дистанцироваться от «старшего брата» все дальше и дальше.

И что делать властям в этой ситуации? Арсенал воздействия ведь какой? Попугать, показать, что власть бдит, раздуть щеки. При этом таких заметных, которые на поверхности, «радикальных элементов» практически не осталось. Общество к задержаниям адаптировалось и очередные аресты не имеют никакого сдерживающего эффекта.

Но держать в страхе людей стало имплицитным свойством системы. К другому-то она просто не приучена. Да и не умеет. Вот поэтому система и взялась за своих. Не доверяет ведь никому. Всюду предатели видятся.

Опять же, доносы. Я не раз писал об этом: нынешняя ситуация во власти — это битие копытом ретивых, которые не гнушаются в выборе средств, чтобы прорваться наверх. Поэтому в ход идут доносы, кляузы. Сдавай своих, бей своих — чтобы чужие боялись. Ситуация предсказуемая. Но и резерв ретивых иссякает.

***— Допустим, власть пытается сбить эти настроения репрессивными мерами. Но можно ли такими методами консолидировать чиновников и силовиков? Разве что демотивировать. Что в такой ситуации может чувствовать какой-нибудь высокопоставленный следователь, приложивший руку к закрытию крупного независимого портала, и вдруг оказавшийся в наручниках?***

— Власть у нас специфическая, арсенал средств у нее невелик — кнут. Эти посадки способствуют не консолидации, а наоборот — нарастанию страхов в самой же системе. И, как следствие, к дистанцированию от нее. А при возможности и «сваливанию» за рубеж.

Люди не принимают решения, капсулируются, боятся друг друга. А когда они изолируются друг от друга, система начинает работать все хуже и хуже. И начинает усложняться экономическая ситуация. И когда это происходит, снова срабатывает стратегия бить своих, чтобы в этот раз они не предъявляли претензии по поводу падения благосостояния. Но общество-то к этому привыкло и в позитивные результаты подобной политики не верит.

К тому же, что бы ни говорили, одновременно идет сокращение штата на всех уровнях. И это сокращение сопровождается в том числе чисткой своих людей.

***— Кто-то уходит сам, некоторые оказываются под арестом. Нередко это профессионалы своего дела. Кто приходит на их место и как качество новых управленцев сказывается на эффективности властной системы?***

— Вопрос очевидный. Сказываться будет крайне скверно и разрушительно. И это результат даже не политики последних дней, а политики многолетней. Когда делается акцент на лояльности, а не на профессионализме. Раньше эта лояльность худо-бедно нивелировалась за счет дурных денег, в том числе поступающих от соседа.

А сейчас ведь и у соседа денежные проблемы, нефтегазовый поток сокращается, траты очень большие. И если раньше можно было латать дыры, не особо заботясь о принятии выверенных решений, то сейчас эта проблема обостряется.

Теперь эта непродуманная политика очень поверхностного отношения к профессионалам начинает проявляться все очевиднее. Ведь поиск новых точек сбыта, работа над новой логистикой требует высокой квалификации, а не только лояльности.

У меня первые опасения начали появляться еще лет десять назад, когда во власть и управление стали приходить троечники. Увы, теперь мы видим результат: кадров нет, резервов нет.

Так как знания и квалификация оказались на периферии, то и брать их неоткуда. Покупать специалистов мы не можем — денег нет. Да никто из разумных управленцев и не поедет сюда. Увы, за что боролись, как говорится.

**gazetaby.info**

АЗБУКА ПАЛІТАЛОГІІ

# ЯК ВЫДАТКІ НА МАСАВЫЯ РЭПРЭСІІ ПАПАЎНЯЮЦЬ ВУП

**Спробы прыстасавацца да пераменаў у тыя часы, калі ўлада распачынала ліквідацыю сваіх апанентаў, рабіліся неаднаразова, аднак усе яны кожны раз заканчваліся правалам. Сяргей Нікалюк піша ў «Новы Час» з чаго складаецца ВУП і куды мы рухаемся.**



Каб нешта ацэньваць — не істотна, што ці каго, — патрэбныя нейкія крытэры. Прыгадаем, як у СССР даказвалі перавагі планавай эканомікі над рынкавай перавыкананнем планаў па выплаўцы чыгуну і сталі. А пра дасягненні ў вытворчасці канчатковых прадуктаў — у прыватнасці, легкавых аўтамабіляў — прапаганда сарамліва маўчала.

У СССР галіны прамысловасці падзяляліся на тыя, якія ствараюць сродкі вытворчасці (група «А»), і тыя, што робяць прадметы для асабістага спажывання грамадзян (група «Б»). Пры гэтым падкрэслівалася, што вытворчасць групы «А» служыць вызначальным паказчыкам эканамічнага развіцця.

Падобнае эканамічнае адкрыццё спалучалася з лозунгам партыі: «Усё ў імя чалавека, усё дзеля дабрабыту чалавека». Ніхто пры гэтым не звяртаў увагі на тое, што сродкі (група «А») ставіліся вышэй за мэту (група «Б»). І не варта гэтаму дзівіцца. Ва ўмовах масавага двудумства ў СССР падобны парадокс на фоне сваіх «калегаў» нічым прынцыпова не вылучаўся.

У гэтай сувязі прыгадваецца анекдот:

— *Мы робім самыя вялікія ў свеце экскаватары, якія крочаць!*

— *А навошта вы іх робіце?*

— *Каб здабываць больш за ўсіх у свеце жалезнай руды!*

— *Дзеля чаго?*

— *Каб выплаўляць больш за ўсіх у свеце чыгуну і сталі!*

— *А навошта?*

— *Каб рабіць самыя вялікія ў свеце экскаватары, якія крочаць!*

**З чаго складаецца ВУП**

І ў нашы дні не страціла сваёй актуальнасці праблема, так бы мовіць, «чым будзем мерацца?». Здавалася б, універсальных паказчыкаў ВУП на душу насельніцтва пакуль яшчэ не прыдумана. Аднак не спяшаецеся радавацца.

Растлумачу свой скептыцызм з дапамогай амерыканскага сенатара, кандыдата ў прэзідэнты 1968 года Роберта Кенэдзі: «ВУП вымярае ўсё, акрамя таго, дзеля чаго варта жыць, — наш валавы ўнутраны прадукт уключае ў сябе забруджванне паветра, рэкламу цыгарэт і машыны хуткай дапамогі, якія вязуць тых, хто пацярпеў у катастрофах. Ён улічвае і дзвярныя замкі, і турмы для людзей, якія іх узломваюць. Ён уключае ў сябе знішчэнне секвойных лясоў і ўнікальнай прыроды ў выніку хаатычнай урбанізацыі... Але ён не ўлічвае здароўе нашых дзяцей, якасць іх адукацыі і ўсмешкі на іх тварах».

Прыгожа, пагадзіцеся. А калі працей і бліжэй да родных бяроз ды асін як у прасторы, так і ў часе?

Давайце паспрабуем! ВУП Расіі знізіўся ў 2022 годзе на 2,5%. Некрытычна, калі ўлічыць, што пасля 24 лютага большасць эканамістаў ацэньвала маючы адбыцца спад двухзначным лікам. Але д'ябал, як вядома, мае звычку хавацца ў дэталях — прычым часам другасных. На адну з такіх дэталяў звярнуў маю ўвагу Telegram-канал «Кремлевский мамковед» у пасце пра тое, навошта расіяне скупляюць нерухомасць за мяжой.

Цытую: «Турцыя пацярпела ад расіян. Па выніках 2022 года яна стала сусветным лідарам па росце коштаў на арэнду нерухомасці — у параўнанні з 2021 годам жыллё падаражэла на 160,6%.

Паводле даных Propriete Generale Group, на Турцыю прыйшлося 32,8% попыту на замежную нерухомасць з боку расіян. Значную ролю ў пытанні выбару краіны для пераезду на ПМЖ адыграла магчымасць ВНЖ у Турцыі пасля куплі нерухомасці, а праз 5 гадоў — грамадзянства.

Купля нерухомасці за мяжой стала для расіян інструментам павышэння асабістай бяспекі. Толькі 14,3% здзелак былі заключаныя з мэтай атрымання даходу ад інвестыцый. 15,7% расіян набывалі кватэры і дамы за мяжой проста для ўласнага пражывання, а 64,1% — для атрымання ВНЖ. З такім падыходам вяртанне ў Расію людзей, якія набылі нерухомасць, у хуткім часе ўяўляецца вельмі малаверагодным».

Ахова грамадскага парадку і забеспячэнне бяспекі, нароўні з падтрыманнем вяршэнства закона і аховай правоў і свабодаў грамадзян належаць да базавых функцый сучасных дзяржаў.

Расійская Федэрацыя пачала «спецаперацыю» нібыта дзеля абароны правоў і свабодаў рускіх ва ўсходніх рэгіёнах Украіны. Мэта, канешне, высакародная, а што тычыцца скарыстаных для гэтага сродкаў — тое тэма для асобнай размовы.

Дзесяць месяцаў намаганняў па дасягненні мэты абярнуліся шасцізначнай колькасцю забітых з абодвух бакоў і сямізначнай лічбай тых, хто пакінуў краіну-вызваліцельніцу. Вось і падлічвай пасля гэтага ВУП, істотную частку на стварэнне якога склалі выдаткі на масавыя забойствы.

**У проціеглы бок ад Еўропы**

Згадайцеся з трох разоў, як перажыла беларуская мадэль 2022-ы год? Песімістаў папрашу ў гэты час пайсці папаліць дзесьці ўбаку. Іх меркаванне мяне не цікавіць. Хай яны ідуць сабе маршыраваць пад «Марш энтузіястаў».

Таму дам слова старшыні Савета Рэспублікі Наталлі Качанавай: «Мы бачым, што, нягледзячы на санкцыйны ціск і праблемы, якія ёсць у плане рэалізацыі прадукцыі нашых прадпрыемстваў, эканоміка паказала вынік, заводы працавалі, заработная плата выплачвалася стабільна. Няпросты 2022 год мы пражылі вельмі годна. І гэта нягледзячы на ўсе перыпетыі, калі многія думалі, што Беларусь абрынецца. Але нічога ў нядобразычліўцаў не атрымалася. Усе нашы поспехі кажуць пра тое, што тая сістэма ўлады, тая структура, якая выбудаваная ў нашай краіне, эфектыўная».

«Заводы працавалі, заработная плата выплачвалася стабільна». Ну як тут не зняць капялюш і не схіліць калена перад сістэмай улады, выбудаванай за тры дзесяцігоддзі! «Многія думалі, што Беларусь абрынецца» — а яна не абрынулася! Вось такі сёння крытэр эфектыўнасці.

Аднак адсутнасць абвальвання эканомікі — не адзіны крытэр правільнасці абранага ўладай курсу, які вядзе ў проціеглы ад Еўропы бок. Каб зразумець, ад чаго Беларусь аддаляецца, працытую амерыканскага палітолага Дэніэла Трэйсмана: «Еўрапейская культура, з якой нарадзілася „мадэрнізацыя“, узнікла з вельмі рэдкага спалучэння гістарычных абставінаў: немагчымасці для любога суб'екта ўлады (кароны, імператара, царквы, суверэнных гарадоў і іншых) ліквідаваць сваіх апанентаў, што дало штуршок да пошуку сістэм кампрамісаў...»

Можна па-рознаму ставіцца да апанентаў улады, але без іх на мадэрнізацыю разлічваць не даводзіцца. У гэтай сувязі нагадаю фрагмент з Паслання—2013 адзінага беларускага палітыка: «Наш выбар, дарэчы, невялікі. Мы можам ці прыстасавацца да бурных перамен, ці застацца на ўзбочыне гісторыі. Іншага не дадзена».

Дзесяць гадоў таму выбар у беларускай мадэлі яшчэ быў, аднак эфектыўная ўлада паставіла на ім крыж.

**Сяргей Нікалюк**
**novychas.online**

РАСІЯ

# «ДАЖЕ БЛИЖАЙШИЙ СОЮЗНИК ВДРУГ ПРИЯТНО УДИВИЛСЯ, ЧТО УКРАИНА ЕМУ НЕ УГРОЖАЕТ»

**За этот год российская ядерная угроза девальвировалась вместе с российскими понтами а белорусские пограничники отразили жестокий натиск украинских наступательных заборов, что Лукашенко приятно удивился...**

— Как ты знаешь, я совершенно не разбираюсь в современных военных техниках. Но люди, которые разбираются, очень впечатлились новыми планами военных поставок в Украину, о которых страны НАТО объявили за последние пару дней. Там одних только бронемашин и бронетранспортеров несколько сотен. При том это ведь, как я понимаю бонусные поставки. Потому что сегодня будет новый Рамштайн, а после него, видимо, объявят об основном пакете.

Вот, поскольку второй армии мира на все эти гаубицы и ракеты не хватит, Россия ответила на западные планы залпом вербальных интервенций. Бывший президент Медведев вытащил из чулана ядерную дубинку, а патриарх, в соответствии с занимаемой должностью, вспомнил про Бога и Страшный суд. (На ПВО, даже то которое установлено на крыше министерства обороны патриарх, видимо, уже не рассчитывает).

Но оказалось, что ядерная дубинка машет, а поставки идут. Обидно же. Ты им про ядерный Армагеддон, а они обсуждают хватит ли новым танкам солярки и запчастей. А ядерного Армагеддона не обсуждают вообще. Вот хоть бы для приличия сделали вид, что боятся.

А все потому, что за этот год российская ядерная угроза девальвировалась вместе с российскими понтами. Вот российский рубль устоял, а понты не выдержали. И оказалось, что девальвация понтов для российской власти опаснее, чем девальвация рубля. Лучше бы рубль упал, чем понты.

Потому что величие России держалось не на рубле, не на нефти, не на газе и не на второй армии мира, а на понтах. А когда понты кончились даже дружественные страны начали оглядываться по сторонам в поисках спасательных шлюпок.

Сначала президент Сербии сказал, что вербовка наемников в российскую ЧВК осложняет их двусторонние отношения. Потом Иран вчера заявил, что со всем своим уважением не собирается признавать российскими Крым и Донбасс. (Про уважение это я преувеличил для риторического эффекта). А все потому, что статус главного мирового хулигана, который Россия пыталась себе присвоить, утонул вместе с российским военным кораблем.

И даже ближайший союзник, которому вроде как некуда уже деваться, вчера вдруг приятно удивился, что Украина ему не угрожает. Столько месяцев белорусские пограничники отражали жестокий натиск украинских наступательных заборов, а вчера внезапно выяснилось, что «Украина на провокации не идет», хотя ее и подталкивают.

**По информации: gazetaby.info**

**Заснавальнік:** Салодкі Сяргей Аляксандравіч
**Рэдактар:** Шчамлёў Аляксандр Міхайлавіч
**Адрас рэдакцыі:** 211262, Шумілінскі раён, п/а Амбросавічы. E-mail: alex81852@gmail.com Тэл. 3-73-74, маб. +375299870742.
Газета выдаецца з верасня 2000 г.
**Падпісана да друку 30.01.2023 у 16.35**
Наклад: 290 асобнікаў.
Выдаецца адзін-два разы на месяц на беларускай і расійскай мовах.
Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў.
Друкуецца пры дапамозе аднадумцаў.
Распаўсюджваецца бясплатна дабраахвотнікамі.